# ДЗІДА

ІНФАРМАЦЫЙНЫ ВЕСЬНІК
ГАРАДЗЕНСКАГА
МАЛАДОГА ФРОНТА

№3(24)
Красавік 2007


# ЦІСК



*Актывісты Маладога Фронту падчас суду над Дашкевічам.*

**Менская пракуратура перадала справу супраць актывістаў «Маладога фронту» ў суд Савецкага раёну. Алега Корбана, непаўнагалетнюю Насту Палажанку, Зьмітра Хведарука, Аляксея Янушэўскага і Барыса Гарэцкага абвінавачваюць ва ўдзеле ў незарэгістраванай арганізацыі.**

Сьледчы Сяргей Грахоўскі, які вёў сьледзтва ў справе, распачатай КДБ супраць актывістаў «Маладога фронту», перадаў матэрыялы крымінальнай справы ў суд Савецкага раёну Менску.

Нагадаем: 4 лютага супрацоўнікі міліцыі затрымалі 27 актывістаў «Маладога фронту» пад час паседжаньня цэнтральнай рады арганізацыі. Зьмітра Хведарука і Алега Корбана трое сутак утрымлівалі ў сьледчым ізалятары КДБ. Адпусьцілі юнакоў, узяўшы абяцаньне зьяўляцца на допыт зь першага патрабаваньня. Сьпіс падазраваных супрацоўнікі КДБ хутка пашырылі. 29 сакавіка Наста Палажанка, Аляксей Янушэўскі, Алег Корбан, Зьміцер Хведарук і Барыс Гарэцкі сталі абвінавачанымі ў крымінальнай справе. Маладзёнаў прысьпешвалі знаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы. Барыса Гарэцкага нават прывозілі ў кабінэт сьледчага Сяргея Грахоўскага з турмы на вуліцы Акрэсьціна. Сьледчы адхіліў хадайніцтва адвакатаў, якія прасілі даць больш часу для працы з матэрыяламі справы.

**Гарэцкі:**«Сьледчы вельмі сьпяшаўся перадаць матэрыялы ў суд. І таму мне давялося за тры дні праглядзецьвідэаматэрыялы і ўсю справу. Мы падавалі хадайніцтва, каб нам павялічылі тэрмін разгляду, але на гэта сьледчы адказаў, што тады са справай я буду знаёміцца ў сьледчым ізалятары. Я больш чым упэўнены, што гэта замова зьверху — каб як мага хутчэй нас асудзіць».

20 красавіка на допыт быў выкліканы Яраслаў Грышчэня. Яму паведамілі, што ён праходзіць як падазраваны па справе незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт».

Такім чынам Яраслаў стаў шостым чалавекам, які праходзіць па справе незарэгістраванай моладзевай арганізацыі.Маладафронтаўцы мяркуюць, што Яраславам справа ня скончыцца, і ў найбліжэйшы час можна чакаць новых падазраваных па справе МФ у рэгіёнах.

Цягам апошніх тыдняў па справе ўзбуджанай супраць актывістаў незарэгістраванага «Маладога Фронту» у Горадні было дапытана 17 актывістаў. Да юнакоў і дзяўчат прыходзілі дахат, на месцы працы і вучобы. Камітэтчыкі далі зразумець, што паляваньне, абвешчанае на актывістаў «МФ» працягнецца пасьля суду над менчукамі. Але ня гледзячы на пагрозы, дарослым дзядзькам у пагонах не атрымалася запужаць маладых герояў. Таталетарызм ня пройдзе!

**прэс-служба гарадзенскай арганізацыі “Маладога Фронта”**

# АЛЯКСАНДР ПРУДЗІЛА: « БЕЛАРУСЫ ХІТРАВАТЫЯ, БАЯЗЛІВЫЯ І АГРЭСІЎНЫЯ»

***25 сакавіка адбылася значная палітычная падзея: акцыя, прымеркаваная да гадавіны стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. У дэманстрацыі і мітынгу ў Менску удзельнічала паводле розных звестках ад 5000 да 20000 чалавек. Пра значэнне вулічных акцый мы гутарым з сябрам Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі “Грамада” Аляксандрам Прудзілам.***

**- Сп. Аляксандр, як Вы можаце ацаніць узровень правядзення акцыі апазіцыі 25 сакавіка ў Менску?**

- З газетнай інфармацыі і каментараў відавочцаў, маіх менскіх сяброў, мне вядома пра ўмовы, у якіх праводзілася гэта акцыя: зачыненыя крамы, зачыненыя кафэ... У мяне прыяцель хацеў трапіць з унучкай у кіно, туды, дзе павінна была адбывацца акцыя апазіцыйная. Яго з маленькай дзяўчынкай не пусціла міліцыя: запатрабавалі білет у кінатэатр. У такіх умовах, тое, што адбылося, - гэта, напэўна, той мінімальна-аптымальны варыянт, які б мог быць.



*Моладзь прыняла актыўны ўдзел у святкаванні Дня Волі.*

**- Як Вы лічыце, ці ёсць патэнцыял у вуліцы, плошчы? Ці можа плошча ўплываць на палітычнае жыццё?**

- Вуліца - гэта заўсёды патэнцыял стыхіі. Улада, канешне, можна спекуляваць на гэтым: “Мы абмяжоўваем, каб не было даўкі”. Цікавая сітуацыя. Улада калісьці праводзіла свае мерапрыемтва, пасля якога адбылася такая таўканіна ў цэнтры Менска (трагедыя на Нямізе ў траўні1999г.- **рэд.**) Глядзіце, у што ператварыўся натоўп. Гэта зноў спекуляцыя. Тады міліцыя элементарна не справілася сасваімі абавязкамі забяспечваць парадак. Я штосьці не прыгадаю, каб у нас апазіцыянеры самі сябе па душылі на сваім жа мерапрыемстве. Пакуль міліцыя не ўмешваецца.

**- Менскую Плошчу часта параўноваюць з украінскім Майданам, прычым, не на карысць першай. Маўляў, украінцы былі больш рашучымі, згуртаваным. Як Вы ацэньваеце магчымасці беларусаў у гэтым сэнсе?**

- Адзін з найвялікшых беларускіх пісьменнікаў Іван Мележ даў самую правільную літаратурную, вобразную, метафарычную характарыстыку сярэднестатыстычнага беларуса: гэта людзі на балоце. Што такое людзі на балоце? Яны, як той Васіль, якому гаварылі: “Ідзі ў калгас! Бо якая ж гэта зямля? Гэта балота”. А ён адказваў: “Балота, але маё”. Ёсць адзін міф вялікі, які свядома ці несвядома прапагандуецца ўсімі. Ужываюць адну такую характарыстыку беларускага народа: талерантнасць. Я, як псіхолаг, маю пытанне: да чаго? Талерантнасць да дрэннага надвор’я, стрэсу, абмежавання волі, уседазволенасці? Беларусы – народ не талерантны. Таму што, калі б беларусы былі народам талерантным, то яны б разумелі і прымалі апазіцыю, якая хочадавесці ім сваю думку. Якая ж тут талерантнасць?

**- Як можна гэта праілюстраваць?**

- Па Менску, калі ішлі людзі з бел-чырвона-белымі сцягамі па праспекце, то вельмі многа машын сігналілі ў знак згоды і падтрымкі. Але кіроўцы разам з пасажырамі не выходзілі з машын і не далучаліся да дэманстрантаў. Гэта не талерантнасць. Гэта хітрасць, трусасць і агрэсіўнасць. Калі гаварыць пра рысы сярэднестатыстычнага беларуса, хай сабе гэта і непрыемна будзе гучаць, то ён хітраваты, баязлівы і агрэсіўны. Паслухайце, як выступаюць апаненты апазіцыі ад улады - яны выкрыкваюць у бок гэтай апазіцыі усялякія агідныя словы. Якая ж гэта талерантнасць? Гэта агрэсія. А хітрасць у чым? Гэта такая асцярожная, лісլівая хітрасць: “Я-та – за!” Я к у савецкі час усе былі “За!” на сходах, і ўсе былі “Супраць!” на кухнях.

**-Цікава, а якую пазіцыю, на Вашу думку, мусіць займаць моладзь у час, калі адбываюцца падобныя палітычныя падзеі?**

- Свядомы чалавек займае сваю свядомую пазіцыю ў незалежнасці ад тых падзей, якія адбываюцца. Такая моладзь адрозніваецца ад астатніх тым, што яна хоча жыць паўнавартасна: не толькі есці і піць піва на тусоўках “За Беларусь!” ці, напрыклад, “За футбол!” Яна хоча быць свабоднай у незалежнасці ад таго, хто пры уладзе. А калі яго ўрэзваюць у свабодзе, незалежнасці, ён тады і праяўляе пэўную актыўнасць. Супрацьстаіць тым абставінам, якія не дазваляюць яму свабодна жыць. Свядомасць – гэта адказнасць за сваё жыццё.

**Хрысціна Марчук**
**www.t-styl.info**

# Хроніка рэпрэсій

**У вялікіх і малых гарадах нашай краіны перад палітычнымі акцыямі апазыцыі адміністрацыйныя арышты грамадскіх актывістаў сталі “традыцыйнымі”. Час напярэдадні Дня Волі не быў выключэньнем і для Горадні.**



*Ігар Банцар перад судом.*

18 сакавіка быў затрыманы журналіст часопіса “Magazyn Polski na uchodzstwie” Ігар Банцар. Па словах самаго Банцара, яго затрымліваў маёр міліцыі Ленец.

Маладзёна адвезлі ў пастарунак, нібыта каб праверыць сапраўднасьць ягоных дакумэнтаў. Сцэнар далейшых падзеяў няцяжка прадказаць: на актывіста склалі пратакол за нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы. У якасьці пакараньня Ігар Банцар атрымаў 10 сутак адмінсітрацыйнага арышту.

Студэнта мэдычнага унівэрсытэта Андруся Фаміна затрымалі 19 сакавіка ў цэнтры горада.

Моладзевы актывіст вяртаўся з допыту КДБ па крымінальнай справе, узбуджанай супраць актывістаў “Маладога Фронта”. Міліцыянты Возны і Балтрукевіч схапілі Фаміна ў краме на Савецкай вуліцы. Падставай для такіх дзеянняў “ахоўнікаў грамадскага парадку” стала іхняе ж абвінавачанне, што хлопец нібыта лаяўся матам па мабільным тэлефоне. Фамін быў пакараны сямідзённым адміністрацыйным арыштам.



*Родныя і сябры сустракаюць Андруся Фаміна пасьля 7-мі суткавага арышту.*

21 сакавіка быў затрыманы кіраўнік гарадзенскай Рады партыі БНФ Вадзім Саранчукоў. У гэты ж дзень ён быў асуджаны на пяць сутак адміністрацыйнага арышту нібыта за нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы.



*Вадзім Саранчукоў.*

Усе тры справы разглядала суддзя Суда Ленінскага раёна г. Гродна Наталля Козел. Пастановы ёй былі зроблены паводле артыкула 17 Адміністрацыйнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, які ўступіў у сілу з першага сакавіка гэтага года.

25-га сакавіка 2007 г. актывісты дэмакратычнага руху Горадні сабраліся ля помнага знаку “Пагоня на Грунвальд”, каб адзначыць Дзень Волі.У хуткім часе, на месцы правядзеньня акцыі зьявіліся прадстаўнікі праваахоўных органаў і байцы спэцпадраздзьдзяленьняў, палкоўнік Чабанаў папярэдзіў, што акцыя незаконная і трэба разыходзіцца.

Усе падпарадкаваліся патрабаваньням міліцыі й пачалі сыходзіць. Аднак у гэты момант палкоўнік “ветліва” запрасіў усіх на размову ў пастарунак. Было затрымана 7 чалавек: Дзяніс Івашын, Мікола Воран, Раман Юргель, Алесь Астроўскі, 16-гадовы Максім Рудкоўскі, 13-гадовы Раман Пацалуеў, і яшчэ адзін хлапец 18 год.

Усе былі дастаўленыя ў пастарунак Ленінскага РАУС, дзе з кожнага былі узятыя тлумачэньні. Затрыманых пратрымалі тры гадзіны і вызвалілі, пасьля чаго ўдзельнікі прайшлі да будынку ўраду БНР, ушаноўваючы памяць нашых продкаў, якія стваралі нашую беларускую дзяржаўнасьць.

**прэс-служба гарадзенскай арганізацыі “Маладога Фронта”**

# Студэнтаў пазбавяць ільготаў

**Дзяржава вырашыла пазбавіцца ад ільготаў, якія дасталіся ёй са сталінскіх часоў.**




*Студэнты БДУ распачалі збор подпісаў супраць адмены льготаў*

Палата прадстаўнікоў разгледзіць законапраект аб скасаваньні льготаў некаторым катэгорыям насельніцтва. З ініцыятывы Саўміну плануецца адмяніць палажэньне, паводле якога дзеці да трох гадоў атрымлівалі лекі бясплатна. Рэвізія закране й навучэнцаў школаў, вучэльняў і студэнтаў ВНУ — у іх хочуць забраць 50-працэнтную зьніжку на праезд у гарадзкім і прыгарадным транспарце. Усе гэтыя “непатрэбныя” і “састарэлыя” ільготы, паводле словаў Лукашэнкі, зьбіраліся адмяняць яшчэ год таму. Але тады рэформы адклалі, бо на носе былі прэзыдэнцкія выбары.

Студэнты некаторых ВНУ распачалі збор подпісаў супраць уладнай ініцыятывы.

Студэнт: “Наша стыпендыя складае каля 100 тыс. рублёў. Калі адменяць ільготы, то ўдвая падаражэе праезд, гэта значна ўдарыць па кішэні. Кіраўніцтва нашай дзяржавы заяўляе, што нібыта будуе сацыяльна арыентаванае грамадзтва. Але з такімі падыходамі зусім не падаецца, што гэта ўсё для людзей, каб ім было лепш”.

Акрамя вышэй названых груп насельніцтва, рэформа закране інвалідаў, ліквідатараў аварыі на ЧАЭС,былыхвязьняў фашысцкіх лагероў і іньш.

**Васіль Краўцэвіч**

# Цалуйцеся больш - гэта карысна!

Пацалункі-самая прыемная абарона ад стрэсу. І гэта ня проста словы, а навуковы факт! Фэрмэнты, якія вылучаюцца пры пацалунках, перашкаджаюць зьяўленьню гармонаў стрэсу - глюкакартыкоідаў (яны выпрацоўваюцца наднырачнікамі). Калі іх становіцца вельмі шмат, павышаецца ціск, ўзровень халестэрыну, зьяўляецца агульная млявасьць, парушаецца балянс інсуліну й пачынаецца бяссоньніца. А яшчэ пацалункі ўзмацняюць вылучэньне адрэналіну, што павышае агульную і псыхічную актыўнасьць.



**Рыгоравіч на Славянскім базары ў Віцебску.**

Псыхолягі з Бэрлінскага унівэрсытэту пад кіраўніцтвам Ларса Хагена навуковым шляхам падлічылі, што тры 20-сэкундных пацалункі зраніцы здольныя стварыць рамантычны настрой на ўвесь дзень.

Доўгі пацалунак здольны спыніць прыступ вегетасасудзістай дыстаніі (зноў жа дзякуючы нармалізацыі гарманальнага фону).

Гарачы пацалунак здольны ўзмацніць часьціню пульсу да 150 удараў за хвіліну - гэта стымулюе крываток і насычэньне кіслародам клетак мозга. А гэта робіць разумовыя працэсы хутчэйшымі, дапамагае лепей сканцэнтравацца і паляпшае кароткачасовую памяць.

У нашай сьліне пражывае агромністая колькасьць бактэрый. Прычым 80% з іх аднолькавыя ва ўсіх людзей, а 20% індывідуальныя. Дык вось, калі пры пацалунку чужыя бактэрыі трапляюць да нас, наша абарончая сістэма прыходзіць у баявую гатоўнасьць, запускаецца працэс зьяўленьня антыцелаў. Гэта дае моцны штуршок імунітэту. Стаматолягі лічаць, што рэгулярныя і працяглыя пацалункі - цудоўная прафіляктыка карыесу. Справа ў тым, што наша сьліна багатая на злучэньні кальцыю і фосфару, а таксама прыроднымі антыбіётыкамі. Пры пацалунках яна не застойваецца, працэс яе выпрацоўкі ідзе хутчэй, суадносна, усе карысныя рэчывы дзейнічаюць больш актыўна.

**Зьміцер Папко**

## in memoriam

***11 красавіка раніцай ад цяжкай хваробы на 55 годзе жыцця заўчасна памёр сябра БАЖ Валер Задаля.***

***Валер Задаля нарадзіўся 15 сакавіка 1953 году. Працаваў рэдактарам наваградзкай газэты «Новае жыццё», намесьнікам старшыні Тэлерадыёкампаніі Горадні. У апошнія гады жыцьця, займаўся актыўнай і плённай грамадскай дзейнасьцю.***

***Рэдакцыя ДЗІДЫ выказвае глыбокія спачуваньні сям'і Валера Задалі.***

**Калі Вы жадаеце рэгулярна атрымліваць ДЗІДУ, дашліце SMS з указаньнем Вашага паштовага адрасу,альбо e-mail, на нумар : +48 781 071 764**

# Сьпяваем разам

## *Я НАРАДЗІЎСЯ ТУТ*

*Я нарадзіўся тут-(Dm , Am)*
*У краіне пад шэрым небам. (Gm, Dm)*
*Я нарадзіўся тут-(Am)*
*У краіне бульбы, калгасаў чорнага хлеба.(Gm, Dm)*
*Я нарадзіўся тут-*
*У краіне прапіскі і скручаных кранаў.*
*Я нарадзіўся тут-*
*У краіне сотняў парушаных храмаў.*

***Прысьпеў:***
*Радзільня, дзіцячы садок,(Am)*
*Школа ды інстытут.(Gm)*
*Я нарадзіўся тут,(Am, Gm)*
*І я буду жыць тут.(Dm, Am, Gm)*

*Я нарадзіўся тут-*
*Дзе білет у адзін бок-*
*Гэта шанец для тых, хто нязгодны.*
*Я нарадзіўся тут-*
*Я тут жыву, і мне тут яшчэ не ўсё роўна.*
*Я нарадзіўся тут,*
*Таму гэта – мая краіна.*
*Я нарадзіўся тут –*
*На пяць стагодзьдзяў пасьля Францішка Скарыны.*

***Прысьпеў.***
*Я нарадзіўся тут,*
*Дзе нараджацца было небясьпечна.*
*Я нарадзіўся тут,*
*Дзе ўсе да ўсяго прывыкаюць, але мне гэта*
*Недарэчна.*
*Я ведаю, што*
*Пасьлязаўтра на нашых калгасных палетках*
*Замест пустазельля й палыну*
*Ўзыйдуць белыя і чырвоныя кветкі.*

# Напішы палітвязьню

**ЗЬМІЦЕР ДАШКЕВІЧ:**

213004, Магілёўская вобласьць г.Шклоў, ВК-17

**ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ:**

211656, Віцебская вобласьць, Полацкі раён, в. Малое Сітна, вул. Лясная, 11

**АРТУР ФІНЬКЕВІЧ:**

212002, г. Магілёў, пр. Пушкінскі д.65, ВУАТ №43, пакой 206

**ГАЗЭТА ГАРАДЗЕНСКАГА «МАЛАДОГА ФРОНТА»**

Галоўны рэдактар:
**Кастусь Каліноўскі**
e-mail: mf_dzida@hotmail.com

Газэта заснавана ў 1999 годзе

Наклад 299 асобнікаў
Аб`ём 0,5 умоўныя аркушы